










АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

15 ліпеня 1999 года
Цана 20 000 рублёў

№ 28

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.




Фота Сяргея БРУШКО.

Стар. 2.

## БЕЛАРУСЬ МАЛАДАЯ

ТРЫУМФ

### «СВЯТЫ ХРЫСТАФОР» У ВІЛЬНЮСЕ

По запрашэнню Міністэрства культуры Літоўскай Рэспублікі ў Вільнюс на Міжнародны фестываль музыкі "Святы Хрыстафор" завітаў з вялікімі канцэртамі Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам знакамітага майстра — лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесара Генадзя Праваторава. Апошні раз аркестр выступаў з канцэртамі ў Вільнюсе ў 1974 годзе, з таго часу мінула ўжо 25 гадоў. На канцэрты беларускіх музыкантаў у Вільнюсе было вельмі складана патрапіць, бо цікавасць была надта вялікай. Аркестр прывёз у Вільнюс прэм'еру-сімфонію выдатнага французскага кампазітара Аліўе Месіяна "Турангаліла" (песня кахання). Напісаная паўстагоддзя таму, у 1949 годзе, сімфонія "Турангаліла" складаецца з дзесяці частак і з'яўляецца адным з найбольш складаных і маштабных музычных твораў. Праграма яго — у расшыфроўцы назвы: санскрыцкае словазлучэнне турангаліла прыблізна перакладаецца як "гімн каханню, радасці, часу, руху, рытму, жыццю і смерці".

Галоўны дырыжор аркестра маэстра Г. Праватораў адзначыў, што выкананне сімфоніі прымеркавана да 90-годдзя А. Месіяна, якое было летась. Праект беларускіх музыкантаў быў адзначаны ўдавой кампазітара, якая даслала на адрас аркестра ліст, поўны ўдзячнасці і цёплых слоў. Прафінансавалі новую працу Беларускага акадэмічнага сімфанічнага аркестра арганізатар міжнароднага фестывалю музыкі "Святы Хрыстафор" вядомы дырыжор Данатас Каткус і мэрыя літоўскай сталіцы.

Канцэрты праходзілі ва ўтульным дворыку Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта. Пасля канцэртаў людзі доўга не разыходзіліся. Чулася гучнае: "Брава, аркестр. Брава, маэстра Праватораў!"

**Віктар ЯГОРЧАНКА.**

НАПЯРЭДАДНІ

**Беларускае агенцтва садзейнічання замежным інвестыцыям (БАСЗІ) збірае беларускую дэлегацыю для ўдзелу ў 1-й міжнароднай канферэнцыі і гандлёвай выставе ў галіне прамысловай нерухомасці RealEast-99.**

Па словах прадстаўніка агенцтва, форум пройдзе з 2 па 4 верасня гэтага года ў Вене (Аўстрыя). Удзельнікамі мерапрыемства будуць Венгрыя, Славенія, Чэхія, Славакія, Польшча, Расія, Украіна, краіны Прыбалтыкі і інш.

У БАСЗІ паведамілі, што задача форуму — сабраць у Вене міжнародных інвестараў, галоўных распрацоўшчыкаў і мясцовых экспертаў з мэтай развіцця новых праектаў і рынкаў. Плануецца, што на форуме будуць прадстаўлены палітычныя і эканамічныя даследаванні краін з пераходнай эканомікай, інфармацыя па юрыдычных, падатковых і фінансавых аспектах, па попыце і прапановах прамысловай нерухомасці. Удзел у гэтым мерапрыемстве возьмуць буйныя інвестыцыйныя фонды і інвестары з ЗША, Канады, Вялікабрытаніі, Галандыі, Аўстрыі, ФРГ і Швейцарыі.

На думку спецыялістаў БАСЗІ, для Беларусі, якая мае вялікую колькасць аб'ектаў незавершанага будаўніцтва, прыток замежнага капіталу ў сферу прамысловай нерухомасці надзвычай важны. Удзел у кангрэсе-выставе дасць магчымасць беларускім прадпрыемствам прадставіць свае інвестыцыйныя праекты, знайсці патэнцыяльных інвестараў, наладзіць перспектыўныя дзелавыя кантакты з вядучымі ўдзельнікамі гэтай галіны.

## Я І МОВА

Я ўжо пісаў, што воляю лёсу з 1954 года апынуўся за межамі Беларусі, але ніколі з ёю не парываў, не цураўся роднай мовы, не забываў свае карані і адкуль я родам, заўсёды імкнуўся ёй спрыяць.

Па роду сваёй дзейнасці мне часта даводзілася бываць у многіх рэспубліках СССР і замежных краінах. І ўсюды я адчуваў і цяпер адчуваю, як і раней, вельмі прыязнае стаўленне да беларусаў, павагу і спачуванне Беларусі ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай. Але многія субяседнікі выказвалі здзіўленне, чаму такая свабодалюбівая і гордая, добразычлівая і гасцінная нацыя ў большасці сваёй так абыякава і непачціва адносіцца да сваёй роднай мовы, якая з'яўляецца адной з прыгажэйшых славянскіх моў. Як мог, растлумачваў вытокі і прычыны такога надзвычайнага становішча, спасылаўся на лёс Беларусі, на негатыўныя для яе народа і мовы гістарычныя і геапалітычныя акалічнасці.

Што беларуская мова адродзіцца, у мяне няма сумненняў. Але шлях яе адраджэння цярністы. Усе, каму неабыякавы лёс беларускай мовы, павінны дапамагчы свайму народу захаваць сваю паўнапраўную еўрапейскую мову.

Яскравымі ўзорамі беларускасці для мяне з'яўляюцца Максім Багдановіч, Сяргей Грахоўскі, Барыс Кіт, Васіль Быкаў, Ігар Лучанок, Адам Мальдзіс, Ніл Гілевіч, Аляксей Каўка, Станіслаў Валодзька...

На шчасце, імён беларусаў, якія могуць служыць прыкладам беларускасці, мноства. Іх ведаюць і паважаюць за межамі краіны, ушаноўваюць памяць слынных прадстаўнікоў Беларусі. Напрыклад, вельмі прыемна было ўбачыць у Яраслаўлі мемарыяльную дошку ў гонар Максіма Багдановіча.

Ёсць каму ў Беларусі адраджаць беларускую мову. І нішто не перашкодзіць гэтай высакароднай працы. Усё больш людзей пачынаюць разумець неабходнасць авалодання беларускай мовай імі і іх дзецьмі.

Дарэчы, да ведама скептыкаў аб карысці валодання беларускай мовай. Яна мне вельмі спатрэбілася ў вучобе і працы.

Калі хто думае, што паміж славянскімі мовамі, асабліва беларускай, рускай і ўкраінскай, няма ніякай розніцы, што беларуская мова — гэта сапсаваная руская мова, то глыбока памыляецца. Так, вялікая блізкасць паміж імі ёсць, але кожная з іх самастойная, пасвойму унікальная.

Тым, хто думае інакш, раю прачытаць прадмову — успамін Сяргея Грахоўскага да свайго верша "Ветразь-Парус" у № 38 "Голасу Радзімы" за 1998 год.

**Анатоль ГОЎША.**

Расія, г. Тамбоў.

4–5 стар.

БЕЛАРУСЬ МАЛАДАЯ

# СПЯШАЙЦЕСЯ РАБІЦЬ ДАБРО

● Руслан АНАНЬЕЎ.

У Мінску прайшоў міжнародны кірмаш сацыяльных праектаў недзяржаўных арганізацый. 113 удзельнікаў з Беларусі, Расіі, Швецыі, Польшчы, Нідэрландаў, Даніі прадставілі больш за 150 праграм па 20 мэтавых групах: "Дзеці-інваліды", "Носьбіты ВІЧ-інфекцыі", "Пацярпелыя ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС", "Асобы без пэўнага месца жыхарства" і многія іншыя. Разглядаліся праекты, якія былі рэалізаваны ў арганізацыях ці падтрыманы імі, ажыццяўляюцца цяпер альбо толькі распрацаваны і прапаноўваюцца заказчыку. У склад аргкамітэта кірмашу ўвайшлі: Беларускі саюз сацыяльных педагогаў і сацыяльных работнікаў, Беларускі фонд "Міласэрнасць і здароўе", Беларускі рэспубліканскі фонд "Узаемаразуменне і прымірэнне", Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам, Усехсвяцкі прыход (Дом міласэрнасці), Цэнтр сацыяльных інавацый, Цэнтр падтрымкі асацыяцый і фондаў SKAF.

Мерапрыемствы такога тыпу за рубяжом праводзяцца даўно. У нашых бліжэйшых суседзяў — у Расіі і на Украіне — ужо адбылося некалькі кірмашоў. У Беларусі гэта першы. Ён стаў сапраўдным святам для ўсіх, хто яго наведаў. Палявая кухня частавала салдацкай кашай. На сцэне пад адкрытым небам праходзіў канцэрт самадзейных калектываў. Госці кірмашу мелі магчымасць зрабіць прагулку ў адкрытым конным экіпажы. Дзятва з захапленнем каталася на поні. А напрыканцы свята каля Дома міласэрнасці прызямліліся парашутысты.

Акрамя гэтага, праходзілі семінары і "круглыя сталы", дзе работнікі сацыяльнай сферы з Беларусі, блізкага і далёкага замежжа маглі падзяліцца вопытам, абмеркаваць найбольш важныя праблемы сваёй дзейнасці. У выніку ўсе прыйшлі да адназначнага заключэння: толькі актыўнае, стваральнае супрацоўніцтва трох сектараў (камерцыйнага, дзяржаўнага і грамадскага) дазволіць забяспечыць кожнаму чалавеку годнае існаванне.

Ужо намеціліся першыя прыкметы такога ўзаемадзеяння. З аддзела сацыяльнай абароны Першамайскага раёна Мінска да ўдзельнікаў кірмашу паступіла прапанова супрацоўнічаць у стварэнні тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнай абароны насельніцтва. Вельмі ўражальныя лічбы прывяла сваім калегам Л. Вяко, прэзідэнт Беларускай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам. Яна паведаміла, што на штомесячнае ўтрыманне дзіцяці-інваліда ў Доме-інтэрнаце псіханеўралагічнага профілю дзяржава выдзяляе 32 мільёны рублёў. Іх жа арганізацыя гатова аказваць той жа комплекс паслуг за 8—9 мільёнаў, разлічваючы пры гэтым на дзяржфінансаванне ў памеры толькі 2,5 мільёна рублёў, збіраючыся пагасіць суму, якой нестае, за кошт спонсарства і работы валанцёраў. І кірмаш у цэлым паказаў, што грамадскія арганізацыі здольныя прапанаваць больш шырокі і, што немалаважна, больш танны спектр сацыяльных паслуг у параўнанні з іх калегамі з дзяржаўнай сістэмы сацзабеспячэння. Гэта добра разумеюць і тыя прадстаўнікі бізнесу і дабрачынных фондаў, якія прыйшлі ў Дом міласэрнасці, каб вылучыць найбольш цікавыя праекты і ў далейшым аказваць фінансавую дапамогу ў іх рэалізацыі. Арганізатары кірмашу значна аблягчылі мецэнатам задачу, выпусціўшы афіцыйны каталог, у якім сістэматызавалі ўсе праграмы, прадстаўленыя на стэндах.

У завяршэнне кірмашу прадстаўнікі аргкамітэта адзначылі лепшыя праекты, падзякавалі фірмам, якія аказалі спонсарскую падтрымку, паскардзіліся на тое, што буйныя бізнес-структуры засталіся ў баку ад такога важнага мерапрыемства. Міністр сацыяльнай абароны Беларусі В. Даргель у сваім выступленні заявіла аб асобай значнасці і карысці акцыі, падтрымала намер арганізатараў кірмашу надалей праводзіць яго штогод.

# ШЫЕМ НА КАРЫСЦЬ

ШТО МОЖНА процiпаставiць эканамiчнаму крызiсу? Усялякiя наваўвядзеннi i канструктыўныя рашэннi. А гэта, бадай, магчыма толькi пры самай аператыўнай мабiлiзацыi найбольш актыўных i прадпрымальных розумаў, якiя ў поўнай меры жадалi б i здольныя былi "залячыць раны" вытворчай сферы. I як вынiк, на працягу апошнiх гадоў з'явiўся шэраг вытворча-камерцыйных структур, што працуюць з зарубежнымi партнёрамi. Аднак спецыфiка iх, зразумела, розная. Але што выбраць? I вось, памятаючы аб спрадвечнай цязе людзей да прыгожага i аб няспынных спрэчках вакол праславутага разумення "мода", робiм выбар на карысць швейных фiрм...

Само сабой, прадукцыя па ўмовах двухбаковай дамоўленасцi iдзе за мяжу. Напрыклад, гродзенская "Ювiнта" i маладзечанскi "Сотэр" выконваюць заказы галандскiх фiрм. У асноўным гэта жаночае адзенне. Брэст, Вiцебск, Мiнск, Орша маюць сваiх замежных партнёраў.

Многiя вытворцы з часам ператвараюцца ў акцыянерныя цi ў сумесныя прадпрыемствы, якiм хацелася б i суайчыннiкаў апрануць, i iншым гэта дазволiць. Сёння знешнi i ўнутраны рынкi паспяхова забяспечваюць швейныя аб'яднаннi "Элема" i "Мiлавiца", фабрыка "8 Сакавiка". Ды i многiя iншыя ўжо шыюць "сабе", не разрываючы кантактаў з замежжам. Юная маладзечанская ПКФ "Сотэр" таксама плануе расшырыць сферу вытворчасцi... Чым жа можа вылучыцца гэтая маленькая фiрма на фоне ўсiх астатнiх? Так, у "Сотэры" ўсё цудоўна адладжана, высокая прадукцыйнасць i кампетэнтнае кiраўнiцтва. Але хiба гэтым можа пахвалiцца толькi адзiн "Сотэр"? Вiдавочна, i iншыя фiрмы маюць падобныя патэнцыялы, iнакш цi ўзяўся б Захад супрацоўнiчаць з iмi? Дык вось, агульная важная якасць "Сотэра" — надзейнасць ва ўзроўнi тэхналогiй i спецыялiстаў, якасцi прадукцыi, аператыўнасцi выканання заказаў, поўным узгадненнi дзеянняў з заказчыкамi, мiнiмуме выдаткаў...

Што ж, вось ён якi гэты вытворчы пазiтыў, тыя самыя канструктыўныя рашэннi, рэальныя дзеяннi па стварэннi новай эканомiкi. А гэта ж адметны знак. Бо ў людзей з'яўляюцца дзве жыццёва важныя рэчы — вера i энтузiязм.

**П. НАДОЛЬСКI.**

**I ўсё ж як гэта цiкава сёння ўявiць, якiм бачаць свет тыя, хто знаходзiцца на парозе дарослага жыцця. Рэдакцыя вырашыла выкарыстаць адну з такiх магчымасцей i пазнаёмiць чытачоў з развагамi, назiраннямi студэнтаў самага маладога аддзялення Белдзяржунiверсiтэта — аддзялення мiжнароднай журналiстыкi. Тут студэнты спасцiгаюць сакрэты сваёй будучай прафесii, пiшуць пра жыццё ў Беларусi, супрацоўнiцтва з iншымi краiнамi. У сваiх матэрыялах студэнты iмкнуцца паказаць асобныя аспекты мiжнародных сувязей па формуле: узаемадзеянне — узаемаўплыў — узаемаразуменне.**

# ШКОЛЬНЫЯ АБМЕНЫ ЗБЛIЖАЮЦЬ

● Кацярына АБЕЛЬСКАЯ.

Вiцебская гiмназiя № 2 статус гуманiтарнай гiмназii атрымала два гады назад. Былая сярэдняя школа № 9 даўно славiлася высокiм узроўнем выкладання англiйскай мовы. Выхаванцы школы займаюць першыя месцы на гарадскiх i абласных алiмпiядах па англiйскай мове, у рэспублiканскiх спаборнiцтвах заўсёды ўваходзяць у дзесятку лепшых. З нядаўняга часу ў школе ўвялi вывучэнне iспанскай мовы. Але не гэта самае галоўнае. Гiмназiя ўдзельнiчае ў праграмах па абмену школьнiкамi з Англiяй, ЗША, Iспанiяй. Каля 20 вiцебскiх хлопчыкаў i дзяўчынак кожны год бываюць у амерыканскiм горадзе Дзiрфiльдбiч i iспанскiм Сарагосе. Раз у два гады адбываюцца сустрэчы з аднагодкамi з англiйскага горада Чалмсфорда графства Эсэн. Англiйскiя i амерыканскiя школьнiкi, што прыязджаюць у Вiцебск, жывуць у сем'ях, наведваюць заняткi ў школе, ездзяць на экскурсii ў Полацк, Смаленск, Мiнск.

У гэтым годзе ў Вiцебск прыехала чарговая група амерыканскiх падлеткаў. Яны не хавалi свайго захаплення i адзначаюць, што атмасфера тут намнога лепшая, чым у амерыканскiх школах. Хаця лiчаць, што вучыцца ў Беларусi значна складаней.

Я сама — нядаўняя выпускнiца гэтай школы, удзельнiчала ў праграме па абмену школьнiкамi з горадам Фармiнстонам (ЗША). Спачатку амерыканскiя дзецi разам са сваёй настаўнiцай Кацi Данзi прыязджалi ў Вiцебск. Беларускiя сем'i на 3 тыднi сталi iх домам. Былi ўрокi, дыскатэкi, паходы, экскурсii. Пры расставаннi нiхто не стрымлiваў слёз. Усё-такi за месяц прывыкаеш адзiн да аднаго. А потым наша група з 10 чалавек адправiлася ў ЗША. 5 дзён мы правялi ў Вашынгтоне, акруга Калумбiя. Там кожны дзень адбывалiся вучэбныя семiнары, на якiх абмяркоўвалiся самыя розныя праблемы, уключаючы расавыя канфлiкты i тэндэнцыi развiцця чалавечай цывiлiзацыi. Увесь астатнi час мы правялi ў Фармiнстоне. Наведалi гарады Брэнсан, Сент-Луiс, Джэферсан сiцi. Праграмы абмену школьнiкамi — не толькi адпачынак. Яны яшчэ i пазнавальныя. Мы змаглi параўнаць нашу i амерыканскую сiстэмы сярэдняй адукацыi. Наша аказалася больш складаная i шматпрофiльная. У гэтым ёсць плюсы i мiнусы. 17-гадовыя беларусы больш развiтыя, начытаныя. Аднак недахоп у тым, што не ўсе пасля заканчэння школы змогуць прымянiць i развiць свае веды.

У апошнiя два гады старшакласнiкi займаюцца яшчэ i навуковай дзейнасцю. Усе разам яны складаюць буклеты, прысвечаныя розным тэмам.

Абмены — гэта выдатная магчымасць павысiць узровень валодання замежнай мовай: к канцу знаходжання ў Амерыцы многiя з нас свабодна размаўлялi па-англiйску.

Для выкладчыкаў абмены таксама карысныя ў прафесiйным плане. Выкладчык англiйскай мовы гiмназii Людмiла Раманчук гаворыць: "Гэта ў першую чаргу магчымасць параўнаць метады выкладання i работы з бацькамi". Дарэчы, амерыканскiя i англiйскiя настаўнiкi адзначаюць, што адносiны з бацькамi ў нашай школе наладжаны вельмi добра.

Такiя абмены аб'ядноўваюць, калi свет разрываюць мiжусобныя канфлiкты, выхоўваюць новае пакаленне людзей, якiя не будуць адчуваць варожасцi адзiн да аднаго.

## СЯБРОЎСКIЯ СУВЯЗI АДНАЎЛЯЮЦЦА

Так сталася, што са спыненнем дзейнасцi ВЛКСМ доўгi час практычна нiхто не займаўся праблемамi маладзёжнага мiжнароднага супрацоўнiцтва. Аднак апошнiм часам сiтуацыя значна змянiлася. За год работы "Юнацтва", рэспублiканскага маладзёжнага цэнтра, наладжаны сувязi з найбольш уплывовымi маладзёжнымi арганiзацыямi, асацыяцыямi, фондамi i аб'яднаннямi з больш чым сарака краiн. Прыярытэтнымi ж з'яўляюцца адносiны з маладзёжнымi арганiзацыямi Расii. Ужо атрыманы станоўчыя адказы з 46 расiйскiх рэгiёнаў на прапановы аб супрацоўнiцтве ў сферы турызму, iнфармацыi, адукацыi, працаўладкавання i г. д.

Рэспублiканскi маладзёжны цэнтр "Юнацтва" завяршыў падрыхтоўку да стварэння мiжнародных маладзёжных лагераў на базе Брэсцкай крэпасцi, у Гомельскай вобласцi "Яднанне-99", Магiлёўскай вобласцi "Дружба", Нiжагародскай губернi "Абаронца Айчыны", спартыўнага лагера на тэрыторыi Рэспублiкi Польшча.

У планах РМЦ "Юнацтва" — арганiзацыя маладзёжнага мiжнароднага турызму, прафесiйных абменаў, стажыровак i вучобы за рубяжом.

**Кiрыл ЖЫВАЛОВIЧ.**





# У АНСАМБЛI ГАЛОЎНАЕ — АДЧУВАННЕ РОСТУ

● Кацярына ЗЕНАВА.

На сцёртым паркеце рэпетыцыйнай залы — свежыя сляды. Тут кожны дзень займаюцца танцамi. На сцяне рэкламны плакат: "Чабарок" — узорны ансамбль народнага танца Мiнскага палаца дзяцей i моладзi.

У прамым сэнсе чабарок — гэта лекавая расліна, што цвiце маленькiмi бэзавымi кветачкамi. Гавораць, што мастацтва танца таксама можа па-свойму лячыць: радаваць, супакойваць.

Дзiцячы ансамбль "Чабарок" быў створаны 13 гадоў назад. Нязменны кiраўнiк калектыву Наталля Дзягель. Працаваць з дзецьмi ёй дапамагаюць два харэографы — Алена Прахарэнка i Яраслава Мiцкевiч. I хаця ў ансамблi займаецца каля 150 чалавек, усiм удзяляецца дастаткова ўвагi.

Акрамя нацыянальных беларускiх танцавальных замалёвак, у рэпертуары "Чабарка" ёсць украiнскiя, рускiя, малдаўскiя кампазiцыi. Каб ярчэй паказаць беларускi каларыт i не выкарыстоўваць фанаграму, у ансамблi працуюць музыканты.

Больш за 10 гадоў (летам i на Каляды) "Чабарок" ездзiць у Германiю са сваёй канцэртнай праграмай. Палавiну заробленых грошай ансамбль аддае ў фонд дзяцей Чарнобыля.

Калектыў часта запрашаюць на мiжнародныя фестывалi танца. Францыя, Македонiя, Турцыя, Балгарыя, Чэхiя, Фiнляндыя, Вялiкабрытанiя, — вось няпоўны спiс краiн, дзе выступаў "Чабарок". У гэтым годзе ён ужо пабываў на такiм фестывалi ў Iталii (г. Кастравiлары).

Ведаюць ансамбль i ў краiнах былога Саюза. Некалькi разоў "Чабарок" прымалi ў сябе калектывы з Краснадара i Львова. I з кожным годам у ансамбля прыбаўляецца сяброў.

"Чабарок" прывык да гастроляў. Можа быць, таму дзецям так падабаецца бываць дома, яны так любяць сваю залу, яе балконы, станок, люстэрка...

Люстэрка бачыць, як дзецi растуць. Яно ўсё бачыць, але, на жаль, нiчога не запамiнае. Затое выпускнiкi помняць сябе ў люстэрку i ўсё, што звязана з ансамблем.

**Фота аўтара.**



## ШАГАЛАЎСКІЯ ДНІ



**Міжнародныя Шагалаўскія дні ў Віцебску пачаліся сёлета дзіцячым Шагалаўскім пленэрам і літаратурна-музычным прадстаўленнем "У гасцях у Марка і Бэлы", якое прайшло ў двары Дома-музея Марка Шагала. Потым адбыліся Шагалаўскія чытанні, а таксама адкрыццё выставы "Марк Шагал і еўрапейская культура".**

**НА ЗДЫМКАХ: фрагмент бюста "Марк Шагал і скрыпка" ў Віцебску; дзіцячы Шагалаўскі пленэр.**

**Фота БелТА.**



## ТОЛЬКІ ФАКТ

**МАРШ МІРУ-99**. Увайсці ў XXI стагоддзе з мірнымі думкамі і надзеямі на годнае жыццё заклікаў грамадзян краіны Беларускі камітэт міру напярэдадні 55-годдзя з дня вызвалення рэспублікі і яе сталіцы ад фашысцкіх захопнікаў. У гонар гэтай даты міратворцы правялі Марш міру-99. Стартаваў ён ад манумента Перамогі ў цэнтры Мінска, а фінішаваў у Хатыні, дзе да прыхільнікаў міру далучылася калона ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны з Лагойскага раёна. Было прынята "Пасланне ў будучыню" — наказ будучым пакаленням вечна захоўваць мір на Зямлі.

**БРАНДЭНБУРГСКІЯ ДНІ ЭКАНОМІКІ.** "IV Брандэнбургскія дні эканомікі прайшлі ў Мінску. У рамках мерапрыемства прадстаўнікі нямецкай арганізацыі азнаёміліся з дзейнасцю беларускіх свабодных эканамічных зон, падатковымі пытаннямі, зменамі ў нацыянальным таможным заканадаўстве і г. д. Адбылася таксама кантактна-кааперацыйная біржа, дзе прайшлі перагаворы беларускіх і нямецкіх прадпрымальнікаў.

## СЮРПРЫЗЫ ЛЕТА

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

**Гэткай спёкі**
**зроду не было!**
**(Божа,**
**Божа!**
**Што за год такі!)**
**Сонца —**
**нібы пекла над сялом...**
**Рады сонцу**
**толькі хлапчукі.**
**Басанож,**
**сцяжынкаю знаёмай**
**хлапчукі**
**бягуць да вадаёму**
**(А калі дакладней,**
**да ракі)...**
**А вакол**
**палеткі спёкай**
**сушыць...**
**А вакол**
**пажары людзі**
**тушаць...**
**(Божа,**
**Божа!**
**Што за год такі!)**



**Фота БелТА.**

## САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

ЖЫЦЦЁ МАЕ СВАЕ ЗАКОНЫ. АДЗІН З ІХ — ДЗІЦЯ ДАГЛЯДАЮЦЬ І ЎВОДЗЯЦЬ У СВЕТ БАЦЬКІ. ЧАСТА ПА ВОЛІ БОЖАЙ ЦІ ЛЮДСКОЙ ЗАКОНЫ ПАРУШАЮЦЦА, І МАЛОЕ ЗАСТАЕЦЦА БЕЗ НАДЗЕЙНАЙ РУКІ МАЦІ І БАЦЬКІ. БЫВАЕ, ШТО ПРЫ ГЭТЫМ АПОШНІЯ ЖЫВЫЯ І ЗДАРОВЫЯ. ЦІ ЧАСТА МЫ З ВАМІ ДУМАЕМ ПРА ТАКІХ "САЦЫЯЛЬНЫХ" ДЫ І САПРАЎДНЫХ СІРОТ? МОЖА НА КАЛЯДЫ, КАЛІ Ў ДЗІЦЯЧЫЯ ДАМЫ ІМКНУЦЦА ПРЫЙСЦІ ДОБРЫЯ ДЗЯДЗЬКІ І ЗРАБІЦЬ ПАДАРУНАК МАЛЫМ, ПОТЫМ, АДДАЎШЫ ДАНІНУ СУМЛЕННЮ, ЗАБЫЦЬ ПРА ІХ НА ЦЭЛЫ ГОД НАПЕРАД.

А МІЖ ТЫМ У ІНТЭРНАТАХ І ДЗІЦЯЧЫХ ДАМАХ ЖЫВЕ 26 ТЫСЯЧ ДЗЯЦЕЙ. З ІХ 10 ТЫСЯЧ МОГУЦЬ БЫЦЬ УСЫНОЎЛЕНЫ. ГАЛОЎНАЯ ЗАДАЧА Ў ПЫТАННІ СІРОЦТВА — ДАПАМАГАЦЬ МАЛЫМ ЗНАЙСЦІ СЕМ'І, ЯКІЯ ГАТОВЫ ВЫХОЎВАЦЬ ПРЫЁМНЫХ ДЗЯЦЕЙ. У ВЕРАСНІ 1997 ГОДА ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ АДУКАЦЫІ БЫЎ СТВОРАНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР УСЫНАЎЛЕННЯ — РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ. СЁННЯ ЎЖО МОЖНА ГАВАРЫЦЬ ПРА ВЫНІКІ ПРАЦЫ ЦЭНТРА. ДАДАМ, ШТО ЯК І РАНЕЙ ПА МЕСЦЫ ЖЫХАРСТВА ЎСЫНАЎЛЕННЕМ ЗАЙМАЮЦЦА ОРГАНЫ АПЕКІ І ПАПЯЧЫЦЕЛЬСТВА ПРЫ ВЫКАНАЎЧЫХ КАМІТЭТАХ. ЯНЫ ВАЛОДАЮЦЬ ІНФАРМАЦЫЯЙ ПРА ДЗЯЦЕЙ, ЯКІЯ МОГУЦЬ БЫЦЬ УСЫНОЎЛЕНЫ І ЖЫВУЦЬ НА ТЭРЫТОРЫІ ІХ РАЁНА (КАЛІ ТАМ ЁСЦЬ ДЗІЦЯЧЫ ДОМ, РАДЗІЛЬНАЕ АДДЗЯЛЕННЕ БАЛЬНІЦЫ ЦІ ІНТЭРНАТ). У АДВАРОТНЫМ ВЫПАДКУ ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫЯ БАЦЬКІ ЗВЯРТАЮЦЦА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР УСЫНАЎЛЕННЯ. СЁННЯ ГУТАРКА З ЯГО ДЫРЭКТАРАМ ВОЛЬГАЙ **КАРАБАНЬ.**

# УСЫНАВІЦЕЛІ

## ДРУГІ ГОД НА БЕЛАРУСІ ПРАЦУЕ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР УСЫНАЎЛЕННЯ

**— Раскажыце, калі ласка, пра арганізацыю працы цэнтра.**

— З самага пачатку мы стварылі банк даных, куды ўвайшлі дзеці, якія маглі быць усыноўлены. Паралельна склалі спіс людзей, што жадаюць выхоўваць дзіця. На той час існавала чарга — 390 чалавек патэнцыяльных бацькоў. Цяпер жа яе няма. Праўда, засталіся людзі, якія хочуць узяць на выхаванне нованароджаную дзяўчынку. Так ужо склалася, што менавіта пра дачку марыць цяпер большасць усынавіцеляў.

У цэнтры — 12 інспектараў. 5 з іх працуе ў Мінску, астатнія — па абласцях.

**— Як дзяржава можа стымуляваць рост колькасці ўсынаўленняў?**

— З 1 студзеня гэтага года аказваецца штомесячная матэрыяльная дапамога каля 7 мільёнаў рублёў сям'і, якая бярэ дзіця на выхаванне. Мы наладжваем працу па ўсынаўленню, шукаем перспектывы, робім спробу ўплываць на грамадскую думку.

**— Што канкрэтна змянілася ва ўсынаўленні сёння?**

— Многае робіцца ўпершыню. Напрыклад, кансультацыі прафесійных псіхолагаў. Раней існаваў дэфіцыт псіхалагічнай дапамогі бацькам і дзецям. Кажучы спрошчана — чалавек збіраў даведкі і браў дзіця. Час вымушае быць максімальна адказнымі за свае ўчынкі, тым больш, калі справа тычыцца дзяцей. Цяпер нельга на погляд вызначыць, ці могуць людзі стаць бацькамі. Павінна быць упэўненасць, што дзіцяці ў новай сям'і будзе добра. Гэта актуальна, бо ў 1997 годзе 8 малых, якіх усынавілі, былі вернуты назад у дзіцячыя ўстановы. Адбылося 8 вялікіх трагедый.

**— Як такое можа быць?**

— Па суду адмяняецца ўсынаўленне. Якія прычыны? Непадрыхтаванасць людзей быць бацькамі. Жаданне мець дзіця і душэўная дабрыня — гэта яшчэ не ўсё, што трэба ў даным выпадку. У асноўным гэта былі немалыя дзеці, якія шмат гадоў пражылі ў дзіцячай установе. Дзіця з інтэрната мае свае асаблівасці. Яно чакае шмат разумення і клопату, чаго людзі часам не здольныя даць. З'яўляюцца канфлікты, і дзіця кідаюць — другі раз у жыцці, заўважце. Таму роля псіхолагаў узрастае, асабліва на першай стадыі, калі вырашаецца пытанне аб здольнасці людзей стаць бацькамі-ўсынавіцелямі. Выяўляюцца сапраўдныя матывы ўсынаўлення. Бывае, адзінокая жанчына хоча ўсынавіць дзіця, аргументуючы свой учынак тым, што жадае, каб у старасці яе было каму даглядаць. Ёй, зразумела, дзіця не дадуць.

Мы даведваемся па выніках тэсціравання, якім метадам выхавання аддаюць перавагу ў сям'і, наколькі псіхалагічна падрыхтаваны да бацькоўства чалавек. Некаторым людзям мы адмаўляем адразу. Некаму кажам, што трэба пачакаць, бо яны неадэкватна ацэньваюць перспектывы з'яўлення дзіцяці ў сям'і. Мы імкнемся, каб жаданне стаць бацькамі было асэнсавана і чалавек разумеў, што малое — гэта не толькі радасць, але і клопаты, і цяжкасці. Наша сістэма працы з патэнцыяльнымі ўсынавіцелямі толькі наладжваецца, як і дапамога спецыялістаў пасля таго, як дзіця ўжо жыве ў сям'і. Людзі могуць звяртацца да нас пэўны тэрмін, калі патрабуецца псіхалагічная кансультацыя.

**— Ці можа кантраляваць дзяржава жыццё ўсыноўленых дзяцей, улічваючы тайну ўсынаўлення?**

— Існуюць канфідэнцыяльныя сродкі. Інспектары па ахове дзяцінства і апецы наведваюць сем'і, што ўсынавілі дзяцей. Зразумела, што пры ўмовах захавання тайны ўсынаўлення ёсць некаторыя складанасці — мы не можам запытацца пра дзіця ні ў суседзяў, ні ў настаўнікаў. Але ў Кодэксе аб шлюбе і сям'і прадугледжана, што прадстаўнік дзяржавы мае права ведаць, як жыве ўсыноўленае дзіця.

**— На якіх умовах усынаўляюць нашых дзяцей замежныя грамадзяне?**

— Толькі калі на працягу шасці месяцаў мы не можам знайсці дзіцяці бацькоў на Беларусі, яно можа быць усыноўлена іншаземцам. Безумоўна, прыярытэт маюць беларускія сем'і. Але ж рэальнасць такая: часта толькі за мяжой нашы дзеці атрымліваюць шанс вылечыцца ад хвароб. У іх з'яўляюцца перспектывы ў жыцці. Тым не менш палітыка дзяржавы ў адносінах да замежнага ўсынаўлення застаецца вельмі ўзважанай. Нацыянальны цэнтр усынаўлення працуе з патэнцыяльнымі бацькамі толькі з краін, якія даюць дзяржаўныя гарантыі кантролю за лёсам дзяцей. Кожнае малое, якое выязджае за мяжу, каб жыць у новай сям'і, бяруць на ўлік у консульствах Беларусі. Прадстаўнікі кампетэнтных арганізацый краін, чые грамадзяне ўсынавілі беларускае дзіця, упаўнаважаныя наведваць сем'і, а 2 разы ў год на працягу двух гадоў пасля ўсынаўлення дасылаць да нас падрабязную справаздачу пра жыццё дзіцяці ў сям'і. Яна мае адпрацаваную форму, якая дае магчымасць зразумець, як фізічна, псіхалагічна развіваецца і пачувае сябе маленькі чалавек. Што да грамадзянства, то да 16 гадоў яно застаецца беларускім, а потым падлетак можа выбіраць сам.

**— Колькі дзяцей усынаўляецца штогод у нашай краіне?**

— Каля 500 дзяцей усынаўляецца беларускімі грамадзянамі. І гэта неблагая лічба, улічваючы колькасць нашага насельніцтва.

**— Якія людзі ўсынаўляюць дзяцей?**

— Я б сказала, што чалавек, які ўсынаўляе і гадуе малое, — асаблівы. Выгадаваць сірату, аддаўшы ёй частку душы, — богаўгодная справа. Мяне цешыць, што сёння з'явіліся тэндэнцыі да павелічэння колькасці ўсынаўленняў. Ведаеце, нават у нашай няпростай сітуацыі людзі бяруць хворых дзяцей, клапоцяцца аб іх. У Беларусі жыве 8 тысяч дзяцей да 18 гадоў, якіх калісьці ўзялі з дзіцячых устаноў у сем'і.

Калі ж казаць пра сацыяльны статус усынавіцеляў, то палова з іх — рабочыя, палова — служачыя. Вельмі заможныя людзі да нас не прыходзяць. Амаль не ўсынаўляюць дзяцей вяскоўцы.

Застаецца пытанне інфармаванасці насельніцтва. Існуе міф пра чэргі на ўсынаўленне. Паўтараю: іх няма. Ёсць міф пра дрэнную спадчыннасць дзяцей з дзіцячых дамоў, калі навукоўцы сцвярджаюць, што акружэнне вельмі ўплывае на чалавека. Чамусьці бытуе думка, быццам сярод выхадцаў з дзіцячых устаноў шмат патэнцыяльных злачынцаў, хоць статыстыкі на гэты конт няма. Дзіця ж, што пакідае дзіцячую ўстанову і ідзе фактычна нікуды, знаходзіцца ў экстрэмальнай сітуацыі. Яму трэба проста есці. Любога пастаў на яго месца — ён будзе недалёкі ад злачынства.



Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

*Ігар ЦЕРАШКОВІЧ з вёскі Кончыцы Пінскага раёна нарадзіўся з дэфармаванымі рукамі. І гэта адзіны недахоп такога ўсмешлівага, вясёлага і акуратнага хлопчыка. Але для яго бацькоў прыроджанага дэфекта сына было дастаткова, каб напісаць заяву аб адмове. Цяпер чатырохгадовы хлопчык знаходзіцца ў Кобрынскім сіроцкім дзіцячым доме, як і іншыя, без віны вінаватыя малыя, якім здрадзілі бацькі.*

Менавіта, каб не спакушаць людзей на дрэннае слова, учынак і, галоўнае, абараніць дзіця, бацькі і захоўваюць у сакрэце, што яно з дзіцячага дому.

**— Што самае складанае ў праблеме ўсынаўлення?**

— Псіхалагічныя аспекты — фарміраванне грамадскай думкі, поглядаў на праблему. Працяглы час лічылася, нібы інтэрнаты — "кузня дзяцінства". Многія памятаюць гэты лозунт савецкіх часоў. Цяпер толькі пачынаем разумець, што галоўнае ў жыцці — сям'я. І не толькі для пэўнага чалавека як асобы, але і для дзяржавы.

Сіроцтва — гэта заганны круг. Ёсць прыклады, калі трэцяе пакаленне дзяцей з адной сям'і выхоўваецца ў інтэрнатах. Інтэрнат страшны тым, што чалавек, які там выхоўваецца, як правіла, не разумее сэнсу сям'і, ён падсвядома паўтарае свой няшчасны лёс у дзецях.

**Гутарыла**
**Алена СПАСЮК.**

**БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ**

# БАЛТКРЭВЫ НА ЛАТЫШСКІМ МАЦЕРЫКУ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й—5-й стар.).

ў Дынабургскай крэпасці вучыўся ў школе прапаршчыкаў. Там ён пазнаёміўся і пасябраваў з В. Кюхельбекерам, які знаходзіўся пад арыштам у фартэцы. З 1822 года працаваў выкладчыкам Дынабургскай гімназіі мовазнаўца, фалькларыст, этнограф Іван Насовіч (1788—1877). Яшчэ адзін знакаміты фалькларыст Павел Шэйн працаваў настаўнікам тутэйшай гімназіі з 1865 года. Пасля сканчэння Віленскага настаўніцкага інстытута ў 1913 годзе выкладчыкам гімназіі ў м. Дагоза Дзвінскага павета працаваў мовавед Сцяпан Некрашэвіч (1883—1937).

Прастору ад Турава да Дзвінска аб'ездзіў з тэатрам знакамітага У. Галубка Заір Азгур.

У Рыгу на выхаванне быў узяты сваім родным дзядзькам Браніслаў Эпімах-Шыпіла (1859—1934). Там ён скончыў Аляксандраўскую гімназію. Крыху пазней, ці не ў 1899 годзе, у мастацкай майстэрні ў Рызе служыў Кастусь Каганец. Па сканчэнні Лібаўскага рэальнага вучылішча шэсць гадоў, пачынаючы з 1899-га, у Рыжскім політэхнічным інстытуце вучыўся Аляксандр Уласаў (1874—1941), будучы рэдактар "Нашай Нівы". З гэтай навучальнай установай злучаны маркотны лёс Эдзюка Будзькі (1882—1958). З прычыны беднасці і слабага здароўя ён вымушаны быў пакінуць вучобу ў інстытуце, уладкавацца на службу паштовым чыноўнікам. Рыжскі політэхнічны інстытут скончыў Мікола Вяршынін, будучы дыпламатычны прадстаўнік Рады БНР у Празе (памёр у 1934 годзе).

Рыжскае землямернае вучыліча скончыў Ігнат Буйніцкі (1861—1917), будучы стваральнік беларускага нацыянальнага тэатра. Некаторы час на фабрыцы ў Рызе працаваў Змітрок Жылуновіч. Канторшчыкам на таварную чыгуначную станцыю ўладкаваўся Вацлаў Ластоўскі (1883—1938?). У 1906 годзе спрабаваў здаць іспыты на атэстат сталасці. У Рызе ён далучыўся да грамадскага і культурнага руху. У 1907 годзе разам з Эдзюком (Эдвардам) Будзькам, Макарам Касевічам (Краўцовым) пачаў гуртаваць беларускія сілы ў Рызе. Аднадумцы чыталі лекцыі на беларускай мове для інтэлігенцыі, настаўнікаў, выступалі перад рабочымі з Беларусі.

Наступным разам В. Ластоўскі ў іншай ролі і пры горшых акалічнасцях трапляе ў Рыгу. Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, які ён узначальваў, вымушаны быў падацца ў эміграцыю. У Рызе працаваў палкоўнік К. Езавітаў — шэф Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. Кансулат у Рызе ўзначальваў Уладзімір Пігулеўскі. У сталіцы абвешчанай у 1918 годзе свабоднай, незалежнай, дэмакратычнай Латвіі і апынуўся ўрад В. Ластоўскага, які адразу распачаў акцыю кансалідацыі беларускіх нацыянальных сіл. 20 кастрычніка 1920 года ў Рызе была праведзена палітычная канферэнцыя прадстаўнікоў розных беларускіх палітычных партый. Ад эсэраў прысутнічалі В. Ластоўскі, Я. Мамонька, К. Дуж-Душэўскі, А. Галавінскі, А. Валькові. Ад сацыялістаў-фэдэралістаў — П. Крэчаўскі, В. Захарка, Я. Варонка, К. Езавітаў, Ю. Гадыцкі-Цвірка. Ад сацыял-дэмакратаў — А. Аўсянік. Канферэнцыя дамагалася стварыць вакол урада В. Ластоўскага адзіны нацыянальны блок, сарваць перамовы ў Рызе паміж Савецкай Расіяй і Польшчай аб падзеле тэрыторыі Беларусі. Аднак яшчэ 11 жніўня 1920 года паміж урадамі Латвіі і РСФСР было падпісана мірнае пагадненне, паводле якога Латвіі са складу Віцебскай губерні перадавалася некалькі паветаў са значнай доляю беларускага насельніцтва. Асобны параграф дамовы абавязваў Латвію спыніць на сваёй тэрыторыі дзейнасць эміграцыйных арганізацый, у тым ліку ўрада БНР, яе дыпламатычных місій. Урад В. Ластоўскага пераехаў з Рыгі ў Коўна. Затое ў кастрычніку 1920 года ў Рыгу быў выкліканы Аляксандр Чарвякоў як прадстаўнік БССР, а таксама Уладзімір Пічэта і Алесь Бурбіс як эксперты для падрыхтоўкі дакументаў па заключэнні міру. Але А. Чарвякоў так і не быў дапушчаны да падпісання Рыжскай мірнай дамовы 18 сакавіка 1921 года.

У Рызе працавала Рада Беларускай калоніі, заснаваная ў 1919 годзе. Першая вечарына, праведзеная ёю, адбылася 17 снежня таго ж года. У сакавіку 1920 года выйшаў першы (і апошні) нумар часопіса "На чужыне" пад рэдакцыяй Рыгора Казячага. К. Езавітаў прыняў латвійскае грамадзянства, бо прадаўжаць культурна-асветную справу ў ролі эмігранта забаранялася параграфамі той жа дамовы.

Спынілася дзейнасць "Выдавецтва Вайскова-дыпламатычнай місіі" ў Рызе (1920—1921), але затое паўстала культурна-асветнае таварыства "Бацькаўшчына". Установчы сход прайшоў 25 сакавіка 1921 года ў Дзвінску. Першым старшынёй Цэнтральнага праўлення стаў настаўнік Ян Харлап. Разгарнулася арганізацыйна-грамадская, асветна-школьная, выдавецкая, прэсавая, аматарска-тэатральная дзейнасць таварыства, у першую чаргу ў Латгаліі праз першасныя суполкі — Люцынскую, Краслаўскую, Стара-Слабодскую, дзе пераважала беларускае насельніцтва. Пры падтрымцы Яніса Райніса пры Міністэрстве асветы Латвіі ў тым жа 1921 годзе створаны "Беларускі аддзел" для кіраўніцтва школьнымі ўстановамі (кіраўнік Сяргей Сахараў). Запрацавалі летнія курсы беларусазнаўства ў Дзвінску і Люцыне. Выкладаць на іх былі запрошаны Максім Гарэцкі, Ігнат Дварчанін, які арганізаваў "Драматычную дружыну", а пазней і хор. Так узнік Беларускі народны тэатр пры таварыстве "Бацькаўшчына".

Першы вынік работы — стварэнне сеткі пачатковых школ (каля 60), адкрыццё Люцынскай і Дзвінскай гімназій, сельскагаспадарчай школы. 1.12.1921 года адкрыты (напачатку як аднагадовыя) "Беларускія дзяржаўныя настаўніцкія курсы". Узначальвалі іх К. Езавітаў, пазней Э. Будзька, А. Якубецкі і іншыя. У 1923 годзе пераведзены ў Рыгу. Працавалі з перапынкамі да 1944 года. На курсах выкладалі І. Дварчанін, М. Гарэцкі, П. Мядзёлка, з лекцыямі выступаў А. Луцкевіч. Сярод выпускнікоў курсаў У. Жылка, П. Масальскі, Э. Вайвадзіш, В. Вальтар, П. Мірановіч, А. Салаўёў...

ПАВОДЛЕ канстытуцыйнага звычаю, які існаваў у Латвійскай дзяржаве, кожная нацыянальная меншасць павінна была мець сваіх законным чынам выбраных дэпутатаў у Сойме. Беларусы з прычыны слабай арганізаванасці такога дэпутата-абаронцы не мелі. Па просьбе беларускай інтэлігенцыі абарону нацыянальна-культурных інтарэсаў беларускай меншасці ўзяў на сябе латышскі паэт, дэпутат Сойма Яніс Райніс.

Дзвінская (Даўгаўпілская) дзяржаўная беларуская гімназія праіснавала да 1935 года. Першым яе дырэктарам стаў І. Краскоўскі, пазней — С. Сахараў. Штогод гімназію заканчвала 15—16 матурыстаў. Яны вывучалі латышскую, беларускую, рускую, лацінскую, нямецкую мовы. Выдавалі на гектографе часопіс "Школьная праца" (з 1926 года). Сярод выкладчыкаў — У. Пігулеўскі, А. Якубецкі, Я. Гайлевіч, П. Мядзёлка. У 1927 годзе госцем гімназіі быў В. Ластоўскі. Матэрыяльную дапамогу аказваў Яніс Райніс. Многія выпускнікі гімназіі прысвяцілі сваё жыццё служэнню беларускай, латышскай, рускай, польскай, чэшскай і славацкай культурам. Сярод іх паэты А. Бартуль, Валянціна Казлоўская, Мікола Талерка, перакладчык Янка Доўгі, мастак Міхаіл Калінін, оперная спявачка Надзея Мікалаева-Комісар, рэжысёр Язэп Камаржынскі, археолаг Людміла Краскоўская, кампазітар Юлія Александровіч-Фельдманэ. З канцэртамі, п'есамі Я. Купалы, Зоські Верас, В. Сахаравай і інш. гімназісты наведалі самыя атдаленыя куткі Латгальскага краю, абуджаючы самасвядомасць людзей, узбагачаючы іх духоўнасць. Нездарма С. Сахараў звяртаўся ў пісьме да сваіх вучняў з такімі словамі: "...маю надзею, што тая духовая сувязь, якая ўстанавілася паміж мною і маімі выхаванцамі на грунце агульначалавечых і культурна-нацыянальных ідэалаў, ніколі не загіне".

Высокі ўзровень і гарманічнасць навучання, прэстыжнасць асветных устаноў, шырокі ўздым самасвядомасці выклікалі зайздрасць у шавіністычна настроеных прадстаўнікоў іншых нацыянальных асяродкаў. Не абышлося і без знешніх негатыўных фактараў, аб якіх паведаміў Я. Райніс у сваім выступленні ў Мінску на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу (1926 год). Паводле сфабрыкаваных паліцыяй матэрыялаў былі арыштаваны многія настаўнікі, сябры таварыства "Бацькаўшчына": К. Езавітаў, П. Мядзёлка, У. Пігулеўскі, І. Краскоўскі, А. Якубецкі... У красавіку 1925 года суд апраўдаў усіх абвінавачаных у дзяржаўнай здрадзе, але дзейнасць таварыства паступова спынілася. Нядобразычліўцы дамагліся свайго: колькасць беларусаў між перапісамі насельніцтва 1920 і 1925 гадоў скарацілася амаль удвая — з 75 650 чалавек да 38 010. А фінансаванне ж дзейнасці культурна-нацыянальных аўтаномій залежала ў краіне ад лічбаў перапісу! Вось такая арыфметыка, якая ўсё ж не зламала сілу духу беларускіх адраджэнцаў у Латвіі. Яшчэ ў 1924 годзе ўзніклі таварыствы "Рунь" (старшыня А. Шчорс), "Беларуская хата" (старшыня М. Дзямідаў). З сярэдзіны 20-х гадоў культурна-асветную работу праводзілі беларускія таварыствы "Прасьвета", "Аратай", "Таварыства беларускага тэатра" (пазней — "Беларускае тэатральнае таварыства ў Латвіі"), "Таварыства беларускіх вучыцялёў", "Навукова-краязнаўчае таварыства", "Таварыства беларускай моладзі", "Беларускае выдавецтва ў Латвіі" і інш.

"Таварыства беларускіх вучыцялёў" у 1939 годзе мела намер прыняць назву "Таварыства беларусаў Латвіі", але гэтаму перашкодзілі падзеі 1940 года: акупацыя і змена ўлады.

Ацэньваючы набытак духоўнай жыццядзейнасці латвійскіх беларусаў за 20 перадваенных гадоў, можна сцвярджаць, што, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, інертнасць, неарганізаванасць (вечную хваробу беларусаў), на аўтакратычныя формы праўлення К. Улманіса, беларуская нацыянальная меншасць у Латвіі мела магчымасці для дастатковага самавыяўлення, здзейсніла важкія крокі да грамадзянскага сталення. Нават у гады нямецка-фашысцкай акупацыі падтрымлівала культурна-асветную чыннасць: з 1941 года працавалі пачатковыя школы на Дзвіншчыне ў Рэжыцкім і Люцынскім паветах, гімназія ў Індры. У Рызе былі адкрыты 3 беларускія шасцікласныя школы.

АЛЕ варта вярнуцца ў даваенны час, каб хоць некалькімі сказамі акрэсліць прэсавую і выдавецкую дзейнасць латвійскіх беларусаў.

Ужо згадвалася такое выданне, як часопіс "На чужыне" (першы нумар не меў працягу).

Пасля Беларускага судовага працэсу эпіцэнтрам дзейнасці зноў становіцца Рыга. Тут з 1925 года выходзіць пад рэдакцыяй К. Езавітава газета "Голас Беларуса". У 1926 годзе ў Рызе выходзяць чатыры нумары часопіса "Гаспадар" (месячнік вясковай гаспадаркі і каапераціі. Выдавец: Беларускае цэнтральнае пазыкова-зберагальнае таварыства ў Латвіі. Рэдактар Я. Шчорс). З 1926 па 1930 год выходзіў "часопісь" Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі "Школьная праца". Рэдактар С. Сахараў. Самы грунтоўны часопіс — "Беларуская школа ў Латвіі" — выдаваў у Рызе К. Езавітаў. Выданне трапляла падпісчыкам на працягу 1926—1929 гадоў і 1932—1934 гадоў. Чатыры нумары ў 1930 годзе выйшла "Нашай долі" — органа беларускай дэмакратычнай думкі ў Латвіі. Выдавец — Беларускае культурна-прасветнае таварыства "Прасьвета". Рэдактар У. Відаўскі. Беларускі літаратурна-грамадзянскі і педагагічны штомесячнік "Таварыства беларускіх вучыцялёў у Латвіі" "Школа і жыццё" спрабаваў выдаваць у Рызе М. Дзямідаў. Выдрукаваны толькі адзін нумар. "Шлях праўды" — беларуская аднаднеўка. Адказны рэдактар Ф. Клагіш. Выдавец — Дзвінскі і Люцынскі аддзелы "Таварыства беларускіх вучыцялёў у Латвіі". (1930 г). Толькі два нумары выдадзены ў 1931 годзе палітычнай, грамадскай і літаратурнай газеты "Беларускае слова". Рэдактар — П. Жураўскі.

ПАСЛЯ другой сусветнай вайны ў выніку эміграцыі на Захад і высылак на Усход Латвія страціла 12 працэнтаў свайго насельніцтва. У рэспубліку прыбываюць перасяленцы з Расіі, Украіны, Беларусі. Толькі беларусаў тут у 1959 годзе — 61,9 тысячы; у 1970-м — 94,9 тысячы; у 1979 годзе — 111,5 тысячы; у 1988-м — каля 120 тысяч чалавек. Найбольшая канцэнтрацыя беларусаў была ў 1995 годзе ў Даўгаўпілсе (больш як 10 тысяч) і ў Рызе (каля 70 тысяч). У многіх гарадах нацыянальнай меншасцю аказаліся самі латышы. Тады былі абвешчаны "Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Латвіі" (1989), "Дэкларацыя па пытанню дзяржаўнай незалежнасці Латвіі" (1990). Узнаўленне незалежнасці Латвійскай Рэспублікі прыпадае на 21 жніўня 1991 года. Гэта магло адбыцца пры падтрымцы і кансалідацыі ўсяго грамадства. Народны рух Латвіі быў падтрыманы многімі нелатышамі. Паспяхова прайшоў Форум народаў Латвіі. Патрэбы самавызначэння, нацыянальнай ідэнтыфікацыі паскорылі стварэнне Асацыяцыі нацыянальна-культурных таварыстваў Латвіі. У 1989 годзе іх было зарэгістравана каля дваццаці, у тым ліку і латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак".

Не ўсе беларусы падтрымлівалі нацыянальную ідэю, шанавалі сваю, а значыць і іншыя мовы. Так узнік "Беларускі культурны цэнтр" пры Балтаславянскім таварыстве. Многія падаліся ў "Інтэрфронт".

Таварыства "Сьвітанак" з найбольш актыўнымі сябрамі (а ў Раду ўваходзілі і латышы) паспрабавала ўзнавіць традыцыі і прынцыпы дзейнасці даваенных беларускіх суполак. Стараннямі мастака В. Целеша ў 1991 годзе ў Рызе ўзніклі дзіцячая мастацкая студыя "Вясёлка" і "Беларуская нядзельная школа". Ён жа ўзначаліў аб'яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар" (1991). У 1993 годзе выйшаў літаратурна-мастацкі часопіс беларусаў Латвіі "Сьвітанак" (рэдактар С. Кузняцоў). На жаль, выданне спынілася на першым нумары. Як і выданне-ўзнаўленне газеты "Голас Беларуса" (1997, рэдактар В. Целеш).

Нашыя суайчыннікі гуртуюцца сёння таксама вакол таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны "Прамень" і беларускага культурна-асветніцкага аб'яднання "Уздым" у Даўгаўпілсе" (узніклі ў 1993 годзе). З 1994-га выходзіць газета беларусаў Латвіі "Прамень", а ў Даўгаўпілсе друкуюцца старонкі культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" — "Слова беларуса" ў газеце "Динабург", пазней — у газеце "Латгалес Лайкс", якая называецца "Беларус Латгаліі" (рэдактар С. Валодзька). У 1991 годзе беларускамоўныя старонкі выпускала газета "Вентас Балсс" у г. Вентспілс (рэдактары У. Скрабатун і А. Нарушэвіч).

Пры таварыстве "Прамень" у Рызе створаны ансамбль беларускай народнай песні "Надзея" (кіраўнік З. Кальвіш), а пры таварыстве "Уздым" у Даўгаўпілсе — жаночы ансамбль "Купалінка" (кіраўнік Я. Шчамялёва).

Латвійская дзяржава спрыяе школьнай асвеце ў нацыянальных мовах. Беларускія факультатывы створаны ў школах Елгавы і Тукумса, Краславы. У краслаўскай гімназіі "Вясёлка" самі вучні вызначаюць сваю нацыянальную прыналежнасць. Такім чынам 175 гадаванцаў настаўніцы С. Стэльмачонак вывучаюць мову продкаў, народныя звычаі, праводзяць фальклорныя святы.

Беларуская нядзельная школа існуе і ў Даўгаўпілсе. А вось у Рызе ў 1998 годзе на баланс горада ўзята Беларуская сярэдняя школа ў складзе пяці класаў, якой кіруе В. Целеш; за асобыя заслугі перад Латвіяй яму нададзена латвійскае грамадзянства.

Першасныя суполкі Міжнароднага фонду Янкі Купалы з 1996 года працуюць у Даўгаўпілсе і Рызе. "Латвійскі фонд беларускай культуры" ўзначальвае А. Карповіч, асацыяцыю прадпрымальнікаў-беларусаў Латвіі "Беларускі шлях" — В. Піскунова. У Даўгаўпілсе ў 1996 годзе створана таварыства культуры "Латвія — Беларусь", дзе сябрамі рады абраны і беларусы. Сімвалічна прагучалі словы Прэзідэнта Латвійскій дзяржавы Гунтыса Улманіса на адной з сумесных імпрэзаў у Даўгаўпілскім раёне пры адкрыцці ў вёсцы Дома культуры: "Дом культуры павінен зблізіжаць нас. Расія, Беларусь, Латвія і іншыя суседнія рэспублікі — вось кропкі судакранання. Багатая тая краіна, якая можа не толькі прымаць чужую культуру, але і шчодра аддаваць сваю ўласную..."

БЕЛАРУСЫ Латвіі ў нялёгкіх палітычных і эканамічных варунках спраўджваюць сваёй грамадскай дзейнасцю высновы папярэднікаў — асветнікаў-будзіцеляў: толькі сутворчасць нацыянальнай меншасці з дзяржавай, духоўныя зрухі да інтэграцыі з культурай тытульнай нацыі, асабістая годнасць і павага да ўсіх астатніх, з кім жывеш на зямлі сяброў, прыводзяць да суладдзя ў грамадстве. Хай жа высвечваюцца бурштынкі беларускасці на мультынацыянальным вітражы Латвійскай Рэспублікі!



НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

# «КАЎЧЭГ – XXI. ДРУГАЯ СПРОБА»

**НЯДАЎНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ЦЭНТРЫ ТВОРЧАСЦІ ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ Ў МІНСКУ БЫЛО МНАГАЛЮДНА І СВЯТОЧНА. КАЛЯ ДВУХСОТ ЮНЫХ МАСТАКОЎ ВА ЎЗРОСЦЕ АД 4 ДА 17 ГАДОЎ ЗАПРАСІЛІ СЮДЫ СВАІХ БАЦЬКОЎ І БЛІЗКІХ, ЯКІЯ ПАЗНАЁМІЛІСЯ З ЭКСПАЗІЦЫЯЙ ВЫСТАВЫ АРТ-СТУДЫІ "WOSTRAU" І СТАЛІ НЕПАСРЭДНЫМІ ЎДЗЕЛЬНІКАМІ МАСТАЦКАЙ АКЦЫІ "КАЎЧЭГ-XXI. ДРУГАЯ СПРОБА". АБ ГЭТЫХ ЯРКІХ ПАДЗЕЯХ НАША РАЗМОВА З КІРАЎНІКОМ СТУДЫІ "WOSTRAU" ЮРЫЕМ ІВАНОВЫМ.**




**— Работы вашых вучняў, прызнаюся, уражваюць: яркі, адметны стыль, незвычайная энергетыка фарбаў, своеасаблівае адлюстраванне знаёмых прадметаў і з'яў адкрываюць невядомае ва ўнутраным свеце дзяцей...**

— Справа ў тым, што кожны від мастацтва мае сваю спецыфіку, асаблівасці сваёй мовы. Ад жывапіснай кампазіцыі нельга чакаць апісальнасці, споведзі аўтара ў выглядзе нейкага сюжэтнага апавядання, падобнага на літаратурны твор. Жывапіс уздзейнічае праз наш эмацыянальны свет, і карціна — гэта пасрэднік паміж гледачом і вобразна-эмацыянальным станам аўтара. І паколькі псіхічнае жыццё дзіцяці адрозніваецца ад дарослага, гэта, безумоўна, адлюстроўваецца ў яго творчасці. Але калі дарослыя настаўнікі будуць навязваць юнаму мастаку змест і спосаб выяўлення, мы нічога не зможам спазнаць пра духоўнае жыццё дзіцяці.

**— У чым жа адрозненне вашага стылю работы ад методык мастацкіх школ!**

— Логіка навучальных школьных праграм наступная: перш за ўсё трэба навучыць дзяцей правільна адлюстроўваць натуру, ствараць гармонічныя кампазіцыі, што быццам бы з'яўляецца абавязковай умовай і гарантыяй будучага творчага самавыяўлення. Гэты працэс навучання расцягваецца на доўгія гады, і тым самым дзіцячы ўзрост не ўспрымаецца як самастойны перыяд на шляху да прафесійнай сталасці.

Нехта з дзіцячых псіхолагаў сказаў: "Імя дзіцяці — сёння". І мы кажам: "Сёння і зараз". Дзецям ёсць пра што расказаць, і яны маюць права на творчае самавыяўленне ўласцівай ім мастацкай мовай.



*"Каўчэг" — тэрыторыя дзяцінства.*



Юрый ІВАНОЎ.

Духоўнасць нельга атрымаць звонку. Дзеці здабываюць яе з глыбінь сваіх эстэтычных перажыванняў, у працэсе работы-гульні, каб аднойчы адчуць другое нараджэнне — на гэты раз творчай індывідуальнасці. Наша студыя дае дзецям поўную свабоду ў творчасці і дапамагае ім усвядоміць межы гэтай свабоды.

**— Але ж вы робіце дзецям пэўныя заўвагі, падпраўляеце іх малюнкі!**

— Уявіце сабе, што адбылося б, калі б па законах і правілах дарослых адрэдагаваць, напрыклад, дзіцячыя выказванні з кнігі Карнея Чукоўскага "Ад 2 да 5". Яны сталі б проста інфармацыйнымі, страцілі б галоўнае — вобразнасць, чароўнасць дзіцячай гаворкі.



*"Мадонна з дзіцем" (Маша ШАЛЫНІНА, 16 год).*

**— Якія тады дзеянні педагога!**

— Перш за ўсё быць рэжысёрам, а, магчыма, і клоунам, каб паглыбіць мастацкія перажыванні дзяцей, асвяціць шэрыя будні чароўным светам. Пры гэтым трэба заставацца непрадузятым экспертам-мастаком, які не дапускае ў рабоце прафесійных памылак і фарміруе ў дзяцей здаровы густ і патрэбу ўсё больш і больш працаваць. Галоўнае для нас — не навучыць тэхналогіі, рамяству, а выхаваць творчую асобу.

Дзеці заўжды вядуць дыялог з прыродай, праз своеасаблівую метафарычную мову адлюстроўваюць рэальнасць, таму мы можам казаць пра феномен дзіцячай творчасці.

**— Акрамя выстаў ваша студыя рэалізавала мастацкі праект "Каўчэг-XXI. Другая спроба". Чым выкліканы зварот да гэтай тэмы!**

— Кожны год акрамя справаздачных выстаў мы праводзім канцэптуальныя акцыі "Дзіця. Сям'я. Культура". Нас зацікавіла, як дзеці адчуваюць набліжэнне XXI стагоддзя. Гэта і абумовіла з'яўленне мастацкага праекта "Каўчэг-XXI. Другая спроба". Дарэчы, правядзенне гэтай акцыі стала магчымым дзякуючы фінансавай падтрымцы Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.

Задума праекта нарадзілася з існуючай рэальнасці: набліжаецца трэцяе тысячагоддзе, а свет, на жаль, застаецца недасканалым і нежыццяздольным. Людзі забіваюць адзін аднаго, ваююць, не могуць спасцігнуць ні сябе, ні час, у якім жывуць. Дарослыя пакідаюць дзецям жахлівы, агрэсіўны свет, дзе пануюць нікчэмныя жыццёвыя каштоўнасці, якія фізічна і духоўна знішчаюць чалавека, прыроду і грамадства ў цэлым. І вось таму ўзнікае нейкая форма прэтэнзій, пратэсту дзяцей. Дзеці адчуваюць, што ў будучыні нельга паводзіць сябе так бяздумна, як мы зараз, — губячы сябе і прыроду. Вядома, дзеці не маюць вопыту выжывання ў будучым стагоддзі, але чыстае сэрца дзіцяці ведае, як жыць нельга, як жыць сорамна.

Дзеці будуюць сваю прастору, гэта каўчэг, які сімвалізуе магчымасць ачышчэння, амаладжэння свету, і пакідаюць бацькам пісьмо: "...Заканчваецца XX стагоддзе, а на нашай зямлі трывожна і няўтульна. І каб дапамагчы вам, мы вырашылі будаваць новы каўчэг у XXI стагоддзе".

**— Ці не ўзмацняеце вы і так існуючы разрыў пакаленняў!**

— Будучае падарожжа — гэта сімвалічны акт, як біблейскі 40-гадовы зыход, неабходны для таго, каб дзеці адчулі і загартавалі свае правы на этыку і эстэтыку новага жыцця, узбагацілі грамадства новымі ідэямі і знайшлі шляхі да шчаслівага і дастойнага жыцця ў будучыні.

Разрыву ж пакаленняў, на жаль, няма. Адрозненні паміж людзьмі розных пакаленняў закранаюць знешнюю, паверхоўную грань жыцця. Дзеці вырастаюць і займаюць сваё месца побач з бацькамі — перад тэлевізарам.

**— Доўгі выставачны пакой агорнуты цемрай. У кутку на каленях перад тэлевізарам стаяць два манекены...**

— Аб гэтым я і кажу. Манекены — гэта дарослыя, якія схілілі калені не перад іконай, а перад тэлевізарам. Гэта іх бог, іх любоў, вера і надзея. Гэта асноўная крыніца іх пазнання, іх культурная асалода. Такая жорсткая праўда — гэта параліч асобы.

Многія ж дзеці востра ўспрымаюць духоўны вакуум дому і паступова аддаляюцца ад бацькоў, у якіх не знаходзяць ні цікавых субяседнікаў, ні сяброў, ні аднадумцаў.

**— У другім пакоі знаходзяцца асветленыя пражэктарамі будаўнічыя рыштаванні, у якіх, аддзеленыя ад наведвальнікаў выставы поліэтыленавай плёнкай, гуляюць дзеці...**

— Гэта тэрыторыя дзяцінства. Дзеці быццам схаваліся ад кепскіх вестак, ад страшных катаклізмаў, ад руціны і банальнасці дарослага свету. Будзьце асцярожнымі ў адносінах да дзяцей. Не зламайце іх пяшчотны, таямнічы і часта незразумелы вам свет. Не спяшайцеся зрабіць іх дарослымі, стрымлівайце свае амбіцыі і эгаізм, не вырашайце сваіх праблем за іх кошт. Гэта вельмі дарагая плата.

**— Будзем спадзявацца, што наведвальнікі вашай выставы гэта зразумелі.**

— Мы хацелі б, каб гэта зразумелі ўсе, але не сталі ўсё падрабязна растлумачваць. Мы хацелі, каб дарослыя перанеслі шок, адчулі галоўнае — пачуццё віны, пачуццё адказнасці за лёс нашых дзяцей.

**— Думаю, многія з вамі не пагодзяцца. Людзі старэйшага ўзросту ўпэўнены, што моладзь можа многаму ў іх навучыцца.**

— Канешне, мы разумеем важнасць пераемнасці пакаленняў, перадачы сацыяльнага вопыту. Але, як паказвае жыццёвая практыка, больш ўплыў на чалавека аказвае сучасная сітуацыя, а не ўспаміны аб мінулым. Вось яно побач, жывое жыццё, і яно выхоўвае больш эфектыўна.

**— І апошняе пытанне. Юрый Аляксеевіч, якімі б вы хацелі ўбачыць сваіх выхаванцаў у будучыні!**

— Людзьмі свабоднымі, цікавымі, людзьмі з годнасцю, якія змогуць акумуляваць у сабе тую культуру, тую цывілізацыю, што ім папярэднічала.

Важнай рысай з'яўляецца неагрэсіўнасць чалавека. У жыцці канфлікты непазбежныя, але яны не павінны прыводзіць да вайны, канфрантацыі. Трэба ўмець знаходзіць спосабы вырашэння гэтых спрэчак праз разумныя кампрамісы. Гэта своеасаблівая культура міру. Дарэчы, летась мы праводзілі мастацкую акцыю, якая называлася "Пахаванне вайны". Мы рабілі драўляную зброю, чучала вайны і спальвалі на рытуальным кастры. Гэта сімвалізавала тое, што мы не жадаем браць у XXI стагоддзе зброю. Пры гэтым пад зброяй разумелася і зло, нянавісць, якія ёсць у кожным з нас.

Пазбаўляцца ад усяго адмоўнага трэба пачынаць перш за ўсё з самога сябе: не будзе ўнутры цябе — не будзе і звонку. Таму, каб выжыць, трэба навучыцца быць іншымі.

**Гутарыла Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



*Мастачкі Поля КАМІНСКАЯ, Каця ЛЮБІМАВА, Даша КЛІМОВІЧ.*



*"Падводнае царства" (Надзея КАРПЕНКА, 9 гадоў).*

